ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 30 (1667) | Пятніца, 13 красавіка 1962 года | Цана 4 кап.

## Вясна, вясна...



Вясна... Як напісаць пра цябе, наша доўгачаканая прыгажуня? Якія словы знайсці, каб перадаць радасць твайго прыходу? Ты чуеш, Вясна? Ты ўсміхаешся — агніста, весела і ледзь-ледзь какетліва. Я разумею: напісаць пра цябе цяжка. Які паэт не ўслаўляў твой блакіт і рачны крыгаход, тваю клейкую зеляніну і першы гром! Колькі вершаў, Вясна, пахнуць тваімі краскамі і пахамі абуджанай табой зямлі? Які празаік не пачынаў апавядання, аповесці ці нават рамана словамі: «Вясна прыйшла нечакана» або «Гэта здарылася вясной»!

Вясна! Ты прыходзіш да нас кожны год. Але кожны раз — ты новая і непаўторная! Мінулы год ты не была падобна да вясны 1960 года, а сёлета — да вясны леташняй.

Мы не крыўдуем, Вясна, што ты прыносіш з сабой не толькі радасць, каханне, шчасце. Ты прыносіш яшчэ і турботы — вялікія чалавечыя турботы! Клопаты жыцця! Гэта будзе заўсёды, — пакуль свеціць сонца, пакуль будзе жыццё!

І чалавек заўсёды рады гэтым клопатам, Вясна! І не толькі наш, савецкі чалавек. Усе людзі зямлі рады табе і тваім клопатам, Вясна! Колькі спадзяванняў звязваюць людзі з тваім прыходам! І сярод іх — адно, самае патаемнае, самае светлае, самае важнае і жаданае: каб быў Мір на зямлі!

Гарачэй за ўсіх, шчырэй за ўсіх жадаем гэтага мы, савецкія людзі! Ты бачыш, Вясна, наш сцяг? Паглядзі! На ім напісана: «Праца, Мір, Свабода, Роўнасць, Брацтва, Шчасце!» Гэта лозунгі Камунізма, Вясна!

Зірні на гэты здымак. У поле выйшаў гаспадар зямлі... Даруй, я знаю, гэтая карціна — не новая. Ты ўпершыню пабачыла яе на палях Таджыкістана і сонечнай Грузіі, крыху пазней — у стэпах Кубані, Украіны, Паволжа.

Паглядзі... Гэта поле калгаса імя Кірава Мінскага раёна. Чым заклапочаны старшыня праўлення Аляксандр Пятровіч Лішай і брыгадзір Іван Аляксандравіч Лішай? Самымі мірнымі клопатамі, Вясна: ці не пара падкармліваць гэтае шырокае поле азіміны!

Пара! Ты не чакаеш, Вясна...

Для гэтых людзей ты прынесла з сабой не толькі сонца і цяпло. Ты прынесла з сабой і велічны план узняцца нашай сельскай гаспадаркі — самай мірнай галіны людской працы!

## Вясна, вясна...

Так, Вясна, ты вечная і прывабная ў сваёй красе. І ўсё ж кожны твой прыход адзначаецца новымі, толькі табе ўласцівымі прыкметамі.

Бачыш? Гэта пагрузачная пляцоўка Мінскага трактарнага завода. Яшчэ хвіліна і новы — соты, тысячны — прыгажун «Беларусь» апусціцца на чыгуначную платформу. Куды ён пойдзе, мірны працаўнік? Ты, пэўна, бачыла іх на плантацыях гераічнай Кубы і трапічнай Індыі, у пясках Егіпта і на палях братняга Кітая. Сусветную славу заваяваў наш зямляк!

І ўсё ж, Вясна, для мінскіх трактарабудаўнікоў ты не тая, што была летась. Зусім нядаўна прайшла дзяржаўныя выпрабаванні іх новая машына — больш магутная, больш эканамічная, больш дасканалая. Неўзабаве яе з радасцю сустрэне хлебароб.

Скажы ёй, Вясна: «Шчаслівай дарогі!»



А. КУЛАКОЎСКІ

# ПОСТУП

Прыпазнілася ў гэтым годзе вясна, нешта занадта доўга зіма не хацела саступаць ёй свайго месца. Але ўсё ж памацнелі вясеннія подыхі, пайшлі цёплыя дажджы, снег усюды размяк і стаў сплываць бурнымі, імклівымі ручаямі. Бадай што не будзе ўжо больш упарціцца зіма, вясна трывала ўваходзіць у свае правы. Але не мала каштоўнага часу ўжо страчана.

«Вясенні дзень — год корміць», — гаворыць народная прымаўка. Пачынаюцца палявыя работы, іх трэба праводзіць у вельмі сціслыя тэрміны. Зімні сакавік стварыў даволі складаныя ўмовы для працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Цяперашні вясенні дзень павінен быць вельмі плённы, таму што сяўбу не адкладзеш.

Не гледзячы на гэтыя цяжкасці, усе калгасы і саўгасы рэспублікі з вялікай упэўненасцю і цвёрдай надзеяй сустрэлі вясну чацвёртага года сямігодкі. Сакавік, хаця і быў халодны па надвор'і, прынёс многа цеплыні і натхнення ўсім калгаснікам і рабочым саўгасаў, усяму нашаму народу. Гістарычныя рашэнні сакавіцкага Пленума ЦК КПСС адкрылі новыя перспектывы ў развіцці сельскай гаспадаркі, намнога павялічылі магчымасць узняць ураджайнасць палёў і прадукцыйнасць калгасна-саўгаснага статка.

Два вельмі важныя фактары вызначаюць цяпер стыль і напрамак работы працаўнікоў сельскай гаспадаркі Беларусі. Першае — гэта актыўная інтэнсіфікацыя сельскай гаспадаркі, другое — правільнае і ўмелае ўжыванне прынцыпу матэрыяльнай зацікаўленасці калгаснікаў. Што гэта азначае? Усе калгасы і саўгасы рэспублікі пераходзяць у гэтым годзе на больш ураджайныя прапашныя культуры, рашуча адмаўляючыся ад «славутай» траваполънай сістэмы. Больш будуць сеяць кукурузы, цукровых буракоў ды розных бабовых. Што датычыць прынцыпу матэрыяльнай зацікаўленасці, то тут маецца на ўвазе гарантыйная дадатковая аплата натурай за звышпланавы ўраджай. Узяло, напрыклад, звяно абавязацельства вырасціць, скажам, трыста цэнтнераў буракоў з гектара. За сваю работу кожны член звяна атрымлівае працадні, але звыш таго ён можа атрымаць яшчэ не адзін цэнтнер буракоў, калі звяно вырасціць больш за трыста цэнтнераў з гектара. Праўленні калгасаў даюць у гэтым годзе такія гарантыі па ўсіх культурах.

Як першы фактар, так і другі з'яўляюцца вялікім стымулам для росту вытворчасці прадуктаў сельскай гаспадаркі, але ж яны і павялічваюць адказнасць кіраўнікоў і ўсіх спецыялістаў калгасаў і саўгасаў.

Прапашныя культуры — не трава. Яны могуць даць высокі ўраджай, адразу падняць гаспадарку, але і патрабуюць вялікай увагі да сябе. Тут усё павінна быць прадумана, улічана, узважана: і ўгнаенне глебы, і тэхнічнае абслугоўванне, і расстаноўка рабочай сілы, і шмат іншых мерапрыемстваў. Могуць стаць пустымі гарантыі дадатковай аплаты, калі праца будзе арганізавана дрэнна, калі глеба не атрымае належных угнаенняў.

Згодна пастановы Пленума цяпер усюды арганізоўваюцца тэрытарыяльныя вытворчыя ўпраўленні. З першых дзён яны актыўна бяруцца за работу, памагаюць калгасам і саўгасам найлепш арганізаваць увесь комплекс палявых работ, каб у новых умовах, пры больш працаёмкіх культурах дамагчыся значна большага ўраджаю, чым у мінулыя гады. Вядома, што тут патрэбны розум, гаспадарская руплівасць, ініцыятыва і нястомныя пошукі. Калі сапраўдныя гаспадары вырашылі адмовіцца ад траваполънай сістэмы і ў адпаведнасці са сваімі ўмовамі перайсці на прапашныя культуры, то яны ўжо даўно ва ўсіх дэталях прадумалі, што ім для гэтага трэба. Можна было б успомніць для прыкладу хаця б калгас «Кастрычнік» Хойніцкага раёна. Тут умела арганізавана вытворчасць аргана-мінеральных сумесей, ва ўсіх брыгадах рыхтуюцца торфагноевыя кампосты. Ужо даўно абмеркавана і вырашана, як лепш тут выкарыстаць зямлю, як змяніць структуру пасяўных плошчаў, ад якіх культур адмовіцца, як ад нізкаўраджайных, і якія ўвесці. У калгасе праводзіцца вялікая работа па ўдасканаленню гатункаў насення.

Пры актыўнай інтэнсіфікацыі вытворчасці ў гэтым калгасе, як і ў многіх іншых, на першы час можа не хапіць тэхнікі. Адразу ж не купіш усё, што трэба для поўнай механізаванай апрацоўкі працаёмкіх культур, ды і наша прамысловасць яшчэ пакуль што не можа даць усё неабходнае. Што тут робяць калгасныя кіраўнікі? Перш за ўсё яны стараюцца па-гаспадарску выкарыстаць усе тыя механізмы, якія ёсць у калгасе цяпер. Пушчаны ў ход усе рэзервы. Калі раней, можа, дзе і валяліся які плуг ці барана, забытыя ў брыгадзе ці звяне, то цяпер усё гэта прайшло праз майстэрню або кузню. Затым — само валоданне тэхнікай, у чые рукі яна аддаецца. Вельмі правільна заўважыў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, што ў руках аднаго механізатара машына, як скрыпка ў руках Ойстраха, а ў другога яна паводзіць сябе зусім інакш. «Завядзе такі чалавек трактар, і хочацца крыкнуць: выключай, таму што нервы не вытрымліваюць».

Гэта мае на ўвазе праўленне калгаса «Кастрычнік». Падрыхтоўка кваліфікаваных механізатараў тут лічыцца адной з галоўных задач цяперашняй вясны. Разам з тым актыўна ўводзіцца комплексная механізацыя. У мінулым годзе механізатар Уладзімір Кот са сваім памочнікам Мікалаем Котам пры дапамозе комплекснай механізацыі вырасціў добры ўраджай кукурузы. На плошчы 148 гектараў сабрана па 856 цэнтнераў зялёнай масы з пачаткамі і на плошчы 60 гектараў па 43 цэнтнеры зерня з кожнага гектара. У гэтым годзе яны рыхтуюцца да таго, каб вырошчваць кукурузу на плошчы 270 гектараў, у тым ліку 90 гектараў на зерне. Цукровыя буракі яны будуць вырошчваць на 48 гектарах і маюць намер сабраць з кожнага гектара па 450 цэнтнераў.

Дарэчы тут успомніць і такога вядомага на ўсю нашу рэспубліку механізатара, як Уладзімір Жудро з саўгаса «Навасёлкі» Капаткевіцкага раёна.

Многа ў нас такіх майстроў сваёй справы як у паляводстве, так і ў жывёлагадоўлі. Многа ў нас такіх гаспадарак, як калгас «Кастрычнік». Харошыя весткі даходзяць да нас з калгасаў «Расія» Гродзенскага раёна, «Перамога» Лагойскага раёна, з магілёўскага «Камінтэрна», імя Гастэлы і іншых.

Калі мець на ўвазе нашы маякі ў жывёлагадоўлі, то нельга не назваць такіх самаадданых працаўнікоў, запявалаў сацыялістычнага спаборніцтва, як свінар — механізатар Аляксандр Даронька з саўгаса «Лоеўскі», які ўзяў абавязацельства адзін адкарміць у гэтым годзе 2 200 свіней сярэдняй вагой па 90—100 кілаграмаў кожная. Як не сказаць добрае слова і пра даярку Надзею Леўшунову з саўгаса «Хальч» Веткаўскага раёна, якая адна доіць 100 кароў і ўзяла абавязацельства надаіць у гэтым годзе 220 тон малака.

Гэта тыя людзі, прозвішчы якіх радасна вымаўляць. Калі думаеш пра іх, то заўсёды адчуваеш гонар за свой народ, за сваю партыю, якая ўсё больш і шырэй стварае ўмовы для росту такіх людзей. Іх жыццё і праца — гэта подзвіг, які з'яўляецца найлепшым прыкладам для многіх савецкіх людзей, у тым ліку і для нас, пісьменнікаў. Гэты яркі прыклад самаадданага служэння свайму народу павінен натхняць пісьменнікаў на стварэнне новых кніг аб героях нашай рэчаіснасці, аб нястомных працаўніках сельскай гаспадаркі.

Калі тут да месца хоць двума словамі паведаміць аб сваіх планах, то хацелася б сказаць, што ў гэтым годзе я маю намер яшчэ больш, як раней, бываць у калгасах, знаёміцца з людзьмі, зжывацца з імі, вывучаць іх душэўныя парывы і імкненні, каб потым напісаць пра іх аповесць. Імкненні такія не толькі ў мяне, а і ў многіх наших пісьменнікаў.

Гэтая вясна мае вялікія перспектывы, ясныя надзеі. Можа, яшчэ ніколі не было такой цвёрдай упэўненасці ў тым, што наша сельская гаспадарка рашуча ўзнімаецца, што з гэтага года ў нас стане значна больш хлеба, мяса, малака. Праўда, ёсць яшчэ многа цяжкасцей, ёсць і нямала недахопаў, недаравальных промахаў. Сумна неяк стала мне і крыўдна на асобных калгасных кіраўнікоў, калі даведаўся, што ў некаторых калгасах Брэстчыны не хапае кармоў.

Не ўтрымаешся ад абурэння, калі дачуешся і пра недапушчальную безгаспадарчасць у асобных калгасах, адсутнасць належнага планавання і разумнай ініцыятывы, пра факты ігнаравання тэхнікі. Напрыклад, у калгасе «Маладая гвардыя» Іванаўскага раёна трактарыст таварыш Міхнавец два гады вырошчваў кукурузу без затраты ручной працы. За сваю старанную работу ён амаль нічога не атрымаў на працадні за ўсе два гады. Таму ён кінуў свой трактар і пайшоў працаваць у кантору сувязі.

Або як можна дапусціць такое становішча, што ў многіх калгасах і саўгасах рэспублікі да гэтага часу не працуюць даільныя апараты. Дзяржава дала механізмы, каб аблягчыць цяжкую працу даярак. Механізмы гэтыя добрыя, яны маглі б намнога павысіць прадукцыйнасць працы, калі б іх умела выкарыстаць. Аднак, з-за нядбайства некаторых калгасных і саўгасных кіраўнікоў, гэтыя каштоўныя апараты часам валяюцца мёртвым грузам, а калгасныя дзяўчаты і жанчыны паранейшаму820 дояць кароў рукамі. У калгасах і саўгасах Брэсцкай вобласці ёсць больш двухсот даільных апаратаў, а працуе толькі восемдзесят.

Гэтыя недахопы і цяжкасці трэба настойліва пераадольваць. І яны, бясспрэчна, будуць пераадолены, ліквідаваны. Зарукай гэтаму — гарачы энтузіязм і невычэрпная энергія, з якімі працаўнікі сельскай гаспадаркі і ўвесь наш народ сустракаюць цяперашнюю вясну. Гістарычныя рашэнні сакавіцкага Пленума ЦК КПСС — жыватворная крыніца натхнення і ўпэўненасці ў перамозе. Пленум надаў многа свежасці і бадзёрасці гэтай вясне, залатой і вельмі адказнай пары вялікага змагання за поўны дастатак мяса, малака і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў.

Успомнім...

Раніца 12 красавіка 1961 года для кожнага з нас пачыналася звычайнымі справамі — была серада. Мільёнамі дарог разыходзіліся будзённыя клопаты людзей. І раптам голас маскоўскага радыёдыктара, з вуснаў якога мы прывыклі чуць асабліва важныя паведамленні, уладарна ўварваўся ў свядомасць, у сэрца і запанаваў над усім, што напаўняла жыццё дагэтуль.

«Увага! Гаворыць Масква! Перадаём паведамленне ТАСС аб першым у свеце палёце чалавека ў касмічную прастору...»

Што было потым, наўрад ці трэба нагадваць: у кожнага яно ў памяці. Ды і ці знойдуцца словы, каб перадаць фарбы і гукі тых мінут і гадзін.

Пачынаўся, здавалася, звычайны будні дзень, а стаў ён святам розуму, адвагі, пераможнага наступу чалавека на законы і сілы прыроды.

Стаў ён рубяжом новага веку—веку здзяйснення самай смелай мары.

Калі пра палёт Юрыя Гагарына дачуўся выдатны амерыканскі мастак Рокуэл Кент, ён сказаў: «Савецкія сябры. Ваш Юрый не толькі ваш, ён належыць усяму чалавецтву... Няхай чалавецтва ўшаноўвае дзень палёту Юрыя Гагарына як дзень усеагульнага міру. Гэты дзень трэба святкаваць па ўсёй зямлі з музыкай і танцамі, з песнямі і смехам, як сусветнае шчасце»...

Так, у імя міру і шчасця ўсёй планеты савецкі просты чалавек, камуніст пайшоў на подзвіг, якога яшчэ не здзяйсняў ніхто ў жыцці, адправіўся ў дарогу, не зведаную нікім. Чалавецтва зразумела цану і веліч яго бліскучага подзвігу. Імя Гагарына гучыць сёння на мовах усіх народаў свету як прыклад душэўнай прыгажосці, як сімвал веры ў рэальнасць самай смелай навуковай думкі.

Савецкія людзі з задавальненнем сустрэлі апублікаваны напярэдадні гадавіны гагарынскага палёту Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб устанаўленні Дня касманаўтыкі, які штогодна будзе адзначацца 12 красавіка.

Пройдзе час. Невялікі пакуль што дзённік штурму касмічных вышынь стане шматтомным летапісам. І будуць у ім — абавязкова будуць! — старонкі пра палёты зямлян на іншыя планеты. Здзейсняцца словы першага



Масква, Красная плошча, 9 жніўня 1961 года. Нябеснымі братамі назваў М. С. Хрушчоў слаўных касманаўтаў Юрыя Гагарына і Германа Цітова.

Фота А. ГОСЦЕВА.

# ШЛЯХ ДА ЗОРАК

касманаўта Юрыя Гагарына, якія ён сказаў журналістам на другі дзень пасля свайго палёту: надыйдзе час, калі людзі пачнуць адпраўляцца ў касмічнае падарожжа вакол Зямлі па пуцёўках прафсаюзаў... Цяпер нават цяжка ўявіць усё, чаго дасягне навука і тэхніка заўтрашняга дня.

Але ніколі ў гэтым шматтомным летапісу не сатруцца, не змеркнуць старонкі пра нашы дні, пра тых, хто першы пераадолеў сілу зямнога прыцяжэння.

Ніколі не згасне агністы след савецкіх касмічных караблёў «Усход-1» і «Усход-2» і не забудуцца імёны Юрыя Гагарына і Германа Цітова — піянераў зоркаплавання.

Маякам, запаленым у нашы гераічныя дні, свяціць вечна!

Адзначаючы першую гадавіну гераічнага гагарынскага палёту, савецкі народ ганарыцца тым, што яму належыць слава першаадкрывальніка касмічных шляхоў. Ганарыцца і добра ўсведамляе, чаму менавіта наша краіна адкрыла эру касманаўтыкі. Калі наш першы спадарожнік Зямлі ўзвіўся ў неба, у капіталістычным свеце побач з галасамі шчырага ці вымушанага захаплення гучалі і іншыя галасы. Той-сёй спрабаваў выдаць нашу перамогу за выпадковую ўдачу. Аднак калі за першай удачай без промаху пайшлі новыя і новыя, калі адна ракета выйшла на арбіту вакол Сонца, а другая данесла савецкі вымпел на Месяц, калі навука атрымала зробленыя з борта нашай аўтаматычнай міжпланетнай станцыі фотаздымкі нябачнага з Зямлі паўшар'я Месяца, калі адзін за адным пачалі ўзнімацца і класціся на зададзены курс касмічныя караблі,—хто мог усур'ёз вымаўляць і хто мог усур'ёз слухаць тыя наіўныя словы аб выпадковай удачы?!

Нашы спадарожнікі і касмічныя караблі выходзяць на зададзеную арбіту таму, што, як трапна і вобразна сказаў М. С. Хрушчоў, яны ўзнімаюцца з стартавай пляцоўкі сацыялізма. У гэтых перамогах увасабляюцца рашучыя перавагі савецкага ладу, які забяспечыў небывалы прастор для развіцця эканомікі, навукі, тэхнікі, для духоўнага росквіту чалавека. Той, хто здольны бачыць рэчы ў іх сувязях, не можа не зразумець, што авангардная роля Савецкага Саюза ў асваенні касмічных прастораў — гэта адно з выяўленняў яго авангарднай ролі ў сучасным развіцці чалавецтва.

«Толькі народ, натхнёны вялікай Праграмай пабудовы камунізма, кіруемы сваёй роднай Камуністычнай партыяй, здольны за такія кароткія тэрміны здзяйсняць подзвігі, аб якіх на працягу многіх стагоддзяў марылі лепшыя прадстаўнікі рускай і сусветнай навукі», — пісалі Цэнтральны Камітэт партыі і Савецкі ўрад у сваім Звароце да ўсіх, хто прымаў удзел у ажыццяўленні палёту касмічнага карабля «Усход-2».

Магутныя касмічныя ракеты, першакласнае тэхнічнае аснашчэнне спадарожнікаў і караблёў, дакладна разлічаная арбіта — гэта справа рук нашых выдатных інжынераў і тэхнікаў, вучоных і канструктараў, плён гераічнай працы рабочага класа, усіх савецкіх людзей. Цудоўны настрой нашых касманаўтаў у палёце — гэта акумуліраваны аптымізм нашага народа, яго вера і ўпэўненасць.

Касмічныя справы і планы Савецкай краіны звязаны з самымі гуманнымі мэтамі, прасякнуты ідэямі міру і прагрэсу. Мы з ахвотай дзелімся сваімі дасягненнямі ў гэтай галіне з іншымі народамі і прапануем Злучаным Штатам Амерыкі аб'яднаць навуковыя, тэхнічныя і матэрыяльныя намаганні абедзвюх краін у інтарэсах хутчэйшага пранікнення ў таямніцы Сусвету. Што можа больш ярка засведчыць мірную палітыку савецкага народа, чым гэтае выяўленне яго добрай волі. Хоць Злучаным Штатам у апошні час і ўдалося вывесці спадарожнік з чалавекам на борце на арбітральны палёт, аднак ні для каго не сакрэт, што яны намнога адстаюць у галіне касманаўтыкі ад Савецкага Саюза.

Зара касмічнай эры ўзыйшла над Зямлёю. За першымі разведчыкамі нябесных вышынь пойдуць новыя і новыя энтузіясты. Пойдуць далей, пракладуць новыя маршруты, зробяць новыя адкрыцці. Геній чалавека, праца яго мацней за стыхійныя сілы прыроды. Няхай жа нішто не перашкаджае чалавеку сцвярджаць сваю веліч!

## Дзень касманаўтыкі

МАСКВА, 12 красавіка. (ТАСС). Гадавіну падзеі сусветна-гістарычнага значэння — першага палёту чалавека ў касмічную прастору — адзначае сёння наша краіна. У гэты дзень працоўныя сталіцы — прадстаўнікі заводаў і фабрык, устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, навукова-даследчых інстытутаў, Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту прыйшлі ў Крамлёўскі Палац з'ездаў на сход, прысвечаны першай гадавіне палёту савецкага чалавека ў космас.

Прысутныя гарачымі апладысментамі сустрэлі з'яўленне ў прэзідыуме кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, герояў-касманаўтаў, вядучых савецкіх вучоных, канструктараў, рабочых.

Сход адкрыў уступным словам старшыня выканкома Массавета Н. А. Дыгай.

З прамовамі выступілі прэзідэнт Акадэміі навук СССР М. У. Келдыш, брыгадзір слесараў Першага дзяржаўнага падшыпнікавага завода А. В. Віктараў, член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР С. Н. Вярноў.

Сустрэты авацыяй, з прамовай да прысутных звярнуўся лётчык-касманаўт СССР Герой Савецкага Саюза Юрый Аляксеевіч Гагарын.

